*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года · № 43 (531) · 31 КАСТРЫЧНІКА 2001 г.

## 2 лістапада -- Дзяды




## Курапаты -- 2001

Сёлета шэсце на Курапаты пачалося а 12-й гадзіне ад Гадзіннікавага завода. Сабралася каля 1000 чалавек грамадзян Беларусі, прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх арганізацый, каб аддаць даніну памяці ўсім пакаленням продкаў, памерлых і палеглых у войнах, закатаваных антыбеларускімі акупацыйнымі рэжымамі ў Курапатах, парку Горкага, Сляпянцы, Лошыцкўм яры і мностве іншых месцах Беларусі.

З крыжамі, сцягамі, вянкамі калона накіравалася праз "Зялёны Луг" і каля 15 гадзін падышла да Курапатаў, запруджаных будаўнічай тэхнікай, нагнанай для будоўлі кальцавой дарогі. У Курапатах жалобная частка пачалася з набажэнства і асвячэння нанава пастаўленых крыжоў. Пасля набажэнства прайшоў жалобны мітынг. На мітынгу выступілі В. Буйвал, які зачытаў ліст ад Зянона Пазьняка, а таксама Юрась Беленькі і старшыня ТБМ Алег Трусаў. Сп. Трусаў у прыватнасці адзначыў каштоўнасць нядаўна напісанай працы Зянона Пазьняка "Беларуская мова", а таксама заклікаў, каб беларусы рабілі надпісы на помніках па сваіх родных на беларускай мове.

У жалобнай акцыі бралі ўдзел не толькі менчане. Былі прадстаўнікі Горадні, Ліды, Шчучына, іншых гарадоў і раёнаў Беларусі.

*Здымак Уладзіміра Хрышчановіча.*

## На Дзяды Радзівілы прыязджаюць у Нясвіж

Як было абвешчана ў Нясвіжскім касцёле, на Дзяды (у Задушны дзень) сям'я А. Радзівіла, пахаванага ў 2000 годзе ў крыпце Нясвіжскага касцёла, павінна прыехаць з Англіі ў Нясвіж.

У крыпце Нясвіжскага касцёла "Божага цела", дзе на сёння яшчэ захавалася 67 трунаў Радзівілаў, пачынаючы ад М. К. Радзівіла-Сіроткі (памёр у 1616 годзе) адбудзецца памінальная імша па ўсім родзе Радзівілаў і апошнім ардынанце А. Радзівіле.

Нясвіжская крыпта - адзіная ў Беларусі пахавальня каранаваных асобаў. Княжацкая годнасць нададзена Радзівілам імператарам Святой Рымскай імперыі. Князь Святой Рымскай імперыі прыраўноўваўся да герцага, і да княжацкага тытулу дадавалася герцагская карона.



Друк гэтага нумара газеты "Наша слова" аплачаны з грошай, дасланых Федэральнай радай беларускіх арганізацыяў Аўстраліі.

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

***Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на першы квартал 2002 года. Цана на падпіску падрасла, але практычна ўвесь рост выкліканы ростам тарыфаў пошты, аднак, не гледзячы на гэты рост, нашая газета застаецца адной з самых танных культуралагічнай газетаў Беларусі. Пры гэтым мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 1254 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.***

***Цана ведамаснай падпіскі складае 1392 рублі на квартал.***

***Мы просім усе арганізацыі ТБМ правесці падпіску на газету "Наша слова" для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Для кожнай арганізацыі -- гэта рэальная справа, для газеты -- рэальная магчымасць выжыць.***

КААЛІЦЫЯ Ў АБАРОНУ ДЭМАКРАТЫІ Й
ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ
9 River Road Hiqhland Park, NJ 08904
T: (732) 254-6227; F: (732) 254-8951 E-mail: asilwano@ix.netcom.com

27 верасьня 2001

### ЗАЯВА
### У АБАРОНУ ПОМНІКА ГАБРЭЙСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў МЕНСКУ – СЫМБАЛЯ МІРНАГА СУЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ І ГАБРЭЯЎ

Улады гораду Менску, працягваюць савецкую палітыку нішчэньня гістарычных помнікаў, пастанавілі зьнішчыць яшчэ адзін помнік – сынагогу на вуліцы Дзмітрыева, 3. Усе захады Ўсясьветнага Згуртаваньня Беларускіх Габрэяў, падтрыманыя нацыянальна сьведамай часткай беларускага грамадзтва, не дапусьціць да гэтага барбарства не далі пажаданага выніку. Улады Менску неадступна праводзяць у жыцьцё свой ганебны намер, каб на месцы сынагогі пабудаваць жылы дом.

Акт несправядлівасьці й гвалту да габрэйскіх абшчынаў Беларусі адбыўся 26 верасьня, калі ля будынку на Дзмітрыева, 3 былі арыштаваныя два абаронцы сынагогі, Якаў Гутман і Ўладзімер Рубінчык. Арыштаваныя за што? – толькі за тое, што стаялі на вуліцы з плякатам, на якім было напісана: "Разбурэньне храму – разбурэньне сьвету. Людзі! Ратуйце менскую сынагогу на Дзмітрыева, 3, помнік габрэйскай і беларускай культураў!"

Кааліцыя ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі, у якую ўваходзяць чатырнаццаць беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў, выказвае катэгарычны пратэст супраць антыгабрэйскай і антыбеларускай разбуральніцкай дзейнасьці уладаў Менску. У горадзе дастаткова плошчы на будаваньне жылых дамоў. Помнік XIX –га стагодзьдзя на вуліцы Дзмітрыева, 3 – гэта ня толькі рэлігійны аб'ект, гэта таксама сымбаль адвечнага мірнага сужыцьця шматканфесійнага беларускага грамадзтва, гэта знак традыцыйнай талерантнасьці, якая ўласьцівая беларускаму народу. На плякаце арыштаваных абаронцаў сынагогі была выпісаная вялікая праўда й перасьцярога. Запраўды, "Разбурэньне храму – разбурэньне сьвету". Беларуская ўлада, як тыя талібаны, што ўзарвалі будыйскія статуі ў Афганістане, нішчыць сьляды мірнага сужыцьця людзей розных канфесіяў. Ня цяжка здагадацца, якая мэнтальнасьць і якая пагроза хаваецца за гэтакім вандалісцкім нішчэньнем.

Кааліцыя ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі заклікае ўлады Менску, адказныя за захаваньне гістарычных помнікаў і сьвятыняў гораду, спыніць разбурэньне сынагогі на вуліцы Дзімітрава, 3 і вярнуць будынак законным нашчадкам ды пакараць вінаватых за тую шкоду, якая ўжо нанесена сьвятыні й ейным абаронцам.

Сустаршыні Кааліцыі: **Аляксандр Сільвановіч, Янка Запруднік.**

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 1254 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча,ініцыялы)

# У КНІЖНІЦУ СТУДЭНТА - ФІЛОЛАГА

**АБВЕСТКА**

**У першай палове кастрычніка 2001 года выйшла з друку ( з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь) кніга прафесара Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Паўла Сцяцко "Уводзіны ў мовазнаўства" (Гродна, 2001. – 230 с.). Дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцяў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.**

**Наклад 1500 асобнікаў.**

**Набыць кнігу можна ў кнігарнях г. Горадні і унівесітэцкім кіёску (цэнтральны корпус універсітэта, вул. Ажэшкі, 22).**

**Ніжэй змяшчаем рэцэнзію на згаданую кнігу.**

У апошняе дзесяцігоддзе выйшла з друку нямала падручнікаў і практычных дапаможнікаў па сучаснай беларускай літаратурнай мове, прызначаных для навучальных устаноў розных узроўняў. У гэтых выданнях разглядаюцца асноўныя пытанні функцыянавання беларускай мовы, развіцця яе фанетычнай і граматычнай сістэм, слоўнікавага складу, змяшчаецца мноства каштоўных матадычных парад для практычнага авалодання беларускай мовай. Усё ж асноўная праца ў гэтым кірунку кладзецца на плечы настаўніка-філолага: толькі ад яго залежыць фармаванне лінгвістычнага досведу маладога пакалення. Таму вельмі важна, каб дасведчанасць самога настаўніка ў пытаннях тэорыі і практыкі мовы была дастаткова глыбокай і трывалай. Але абсяг навучальна-метадычнай літаратуры нашых ВНУ, на жаль, вызначаецца аднастайнасцю: падручнікі па гісторыі і тэорыі мовы шмат у чым недасканалыя і не адпавядаюць сучаснаму стану развіцця беларускага мовазнаўства; яны даўно не ўдакладняліся і нават не перавыдаваліся.

У кастрычніку 2001 года выйшла з друку новая кніга прафесара Гарадзенскага універсітэта доктара філалагічных навук Паўла Сцяцко "Уводзіны ў мовазнаўства" – дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцяў ВНУ Рэспублікі Беларусь. Патрэба ў такой кнізе відавочная ўсім, хто вучыцца, працуе ці іншым чынам звязаны з філалогіяй, бо першае беларускамоўнае выданне "Уводзіны у мовазнаўства"*, хоць і змяшчае шмат каштоўнага матэрыялу, адпаведна сістэматызаванага, мае і шэраг недахопаў. Ды і ратарпрынтнае выданне "Пачатковага курсу мовазнаўства"** П. У. Сцяцко ўяўляе з сябе скарочаны выклад асноўных палажэнняў курсу. Новая ж праца П. У. Сцяцко дастатковая паводле аб'ёму, сістэмная, улічвае многія новыя дасягненні ў тэарэтычнай лінгвістыцы. Па словах аўтара, "выданне новага дапаможніка вызначаецца імкненнем удасканаліць навучальны курс у адпаведнасці з тыповай праграмай курсу "Уводзіны ў мовазнаўства" для ВНУ Рэспублікі Беларусь (Мн., 2001)"***.

Азнаямленне студэнтаў-першакурснікаў з элементарнымі лінгвістычнымі паняццямі (з якімі яны знаёмыя з школьнага курсу значна горш, чым з элементарнай матэматыкай, фізікай і г.д., паколькі асноўная мэта філалагічнага кампаненту школьнай праграмы – авалодванне мовай, спосабамі правільна выражаць думкі, захоўваць моўныя нормы пры вусным і пісьмовым маўленні і пад.) патрабуе, з аднаго боку, уліку досведу патэнцыйных адрасатаў падручніка, з другога – поўнага і ўсебаковага асвятлення праблем тэарэтычнай і практычнай лінгвістыкі. Выкладанне на працягу амаль паўстагоддзя згаданага курсу і сталая даследчыцкая цікавасць да ўсяго новага ў мовазнаўстве дазволілі аўтару кнігі "Уводзіны ў мовазнаўства" ў значнай ступені наблізіцца да дасягнення гэтай мэты.

Прызначэнне навучальнага дапаможніка шмат у чым абумовіла яго структуру: ён складаецца з 10 раздзелаў, кожны з якіх прысвечаны разгляду пэўнай праблемы агульнага і прыватнага мовазнаўства (прырода, сутнасць і структура мовы; паходжанне мовы; класіфікацыі моў свету; пісьмо і этапы яго развіцця).

Уступная частка акрамя абавязковых звестак пра структуру і задачы курсу знаёміць чытача з асноўнымі кірункамі сучаснай лінгвістычнай думкі. Як вядома, найбольш перспектыўнымі філалагічнымі спецыяльнасцямі сёння з'яўляюцца кампутарная лінгвістыка, нейралінгвістыка, сацыялінгвістыка, псіхалінгвістыка і інш. Хоць неабходную інфармацыю пра многія з гэтых навук не знойдзем і ў шэрагу грунтоўных даведнікаў. На старонках разгляданага дапаможніка ідзе гаворка пра прадмет, спецыфіку кожнай з згаданых дысцыплін, іх ролю ў сучаснай навуцы і грамадстве.

Асноўная частка працы – традыцыйная: прысвечаная аналізу сістэмы мовы, высвятленню ўзаемасувязяў паміж яе кампанентамі. Гэтая частка вызначаецца ў параўнанні з кнігай "Пачатковы курс мовазнаўства" больш шырокім і дасканалым апісаннем лінгвістычных рэалій. Як і трэба чакаць, вывучэнне мовы і яе законаў будучыя філолагі – патэнцыйныя адрасаты кнігі – пачынаюць з спасцігання прыроды мовы і яе асноўных функцый, дзе згадвацца таксама і пра значэнне мовы ў грамадстве, узаемаадносіны мовы з мысленнем і маўленнем, пра характар якіх выкарыстаны звесткі, як з папярэдніх падручнікаў курсу, так і з новых прац па гэтай праблематыцы. Разглядаюцца таксама разнавіднасці мовы, абумоўленыя функцыйнымі, тэрытарыяльнымі, сацыяльнымі і інш. фактарамі. У першым раздзеле мова разглядаецца і як знакавая сістэма, значная частка адзінак якой валодае экспанатам і зместам. Асобная ўвага аддадзена аналізу адносін, што звязваюць паміж сабой усе моўныя адзінкі: парадыгматычных і сінтагматычных. Але, на наш погляд, гэтыя адносіны маглі б быць асветлены і шырэй, больш багата праілюстраваныя.

Грунтоўна распрацаваны другі раздзел – "Фаналогія". Прычым паняццевае напаўненне гэтага тэрміну ў падручніку трохі адрознае ад традыцыйнага: ён абазначае лінгвістычную навуку, што аб'ядноўвае фанетыку і фанеміку (трад. Фаналогія). Праўда, такое значэнне згаданых тэрмінаў знаходзім і ў "Пачатковым курсе мовазнаўства", але гэтая праца не сталася здабыткам шырокай аўдыторыі. На нашу думку, такое разуменне, свядомае змяненне зместу тэрмінаў цалкам апраўданае, бо абумоўлена іх структурай і сістэмнай суадноснасцю паміж сабой.

У раздзеле даюцца ўсе неабходныя звесткі адносна фізіялагічнага, фізічнага і лінгвістычнага аспектаў вывучэння гукаў мовы і маўлення. Класіфікацыя гукаў мовы пададзена ў выглядзе, які найбольш спрые паспяховаму засваенню адпаведных ведаў. Некаторыя яе элементы падаюцца ў варыянтным асвятленні, каб стварыць у чытача найбольш поўнае ўяўленне (гл., напр., падзел пярэднеязычных гукаў на дарсальныя, апікальныя, какумінальныя або зубныя і пярэднепаднябенныя).

Разглядаюцца і суперсегментальныя моўныя адзінкі і іх роля ў рэалізацыі розных моўных функцый.

Раздзел трэці "Марфеміка і словаўтварэнне" змяшчае шмат новага матэрыялу. Высвятляецца, напрыклад, значэнне тэрмінаў амбіфікс і трансфікс, якія ў ранейшых беларускамоўных падручніках не згадваюцца зусім. Вызначаюцца і асаблівасці марфемнага і словаўтваральнага аналізу слова, што звычайна не робіцца ў тэарэтычных працах, але, відавочна, патрэбнае для навучэнцаў.



*Павел Сцяцко*

Не варта падрабязна спыняцца на кожным раздзеле: усе яны вызначаюцца, як паўнатой асвятлення прапанаваных пытанняў, так і лагічнсцю выкладу матэрыялу, значнай яго ўпарадкаванасцю. Напрыклад, раздзел "Класіфікацыя моваў" змяшчае звесткі пра сучасную моўную карціну свету і знаёміць нас не толькі з інфармацыяй пра прынцыпы падзелу моў, але і пра значэнне, якое маюць сёння некаторыя моўныя групы ці асобныя мовы. Аўтар свядома пазбягае поўнага пераліку ўсіх генетычных моўных сем'яў і груп, каб не загружаць чытача інфармацыяй (але гэты пералік усё ж варта было б падаць у дадатку, каб не прымушаць чытача пры патрэбе або цікавасці звяртацца да іншых крыніц).

Асаблівай цікавасці заслугоўваюць марфалагічная, фаналагічная і сінтаксічная класіфікацыі моў, якія, хоць і не вызначаюцца асаблівай паўнатой (магчыма, з-за недастатковай распрацаванасці), усё ж займаюць належнае месца ў працы. Падаюцца звесткі і пра функцыйную класіфікацыю моў.

Вельмі ўважлівы адносіны П. У. Сцяцко да выкарыстання на старонках кнігі лінгвістычнай тэрміналогіі, імкнецца дасягнуць выразнасці кожнай дэфініцыі, паказаўшы, што можа не толькі распрацоўваць і рэкамендаваць тэарэтычна тэрмінаадзінкі, але і выкарыстоўваць іх у сферы функцыянавання – іх асноўнай стыхіі. У працы не сустракаем шмат якіх штучных тэрмінаў, якія бывалі і, на жаль, бытуюць у беларускім мовазнаўстве. Ужываныя ж адзінкі паказваюць сваю поўную функцыйную вартасць, робяць мову падручніка чыстай і мілагучнай, не пазбаўляючы яе ў той самы час дакладнасці і навуковасці.

Нельга абысці і асобных недахопаў гэтага выдання. Сярод іх – недастатковая колькасць ілюстрацыйнага матэрыялу (не пашкодзіла б, гаворачы пра міжнародны фанетычны алфавіт, пазнаёміць з ім чытача, змясціць моўную карту свету для раздзелу "Генеалагічная класіфікацыя моў", выяву маўленчага апарату чалавека і асцылаграмы, спектраграмы, рэнтгенаграмы розных гукаў у адпаведным раздзеле, больш ілюстрацый у раздзеле "Пісьмо" і г.д.).

У пералік прапанаванай літаратуры па курсе мэтазгодна было б унесці дадатковыя тэарэтычныя працы па канкрэтных раздзелах мовазнаўства, якія маглі б зацікавіць студэнтаў і дапамагчы больш падрабязна азнаёміцца з асобнымі праблемамі (нельга ж абмяжоўвацца лінгвістычнымі слоўнікамі і энцыклапедыямі).

Падсумоўваючы ўсё згаданае, зазначым, што з выхадам кнігі П.У.Сцяцко "Уводзіны ў мовазнаўства", філолагі маюць магчымасць пазнаёміцца з шырокім абсягам лінгвістычных ведаў, а гэта будзе спрыяць фармаванню трывалага падмурка для іх далейшай працы як настаўнікаў.

На нашу думку, згаданая кніга і сваёй структурай (тэкст разбіты на адпаведныя раздзелы, падраздзелы і параграфы) і грунтоўным асвятленнем усіх пытанняў новай праграмы па курсе "Уводзіны ў мовазнаўства" (Мн., 2001) адпавядае статусу падручніка па гэтай навучальнай дысцыпліне.




** Рагаўцоў В. І., Юрэвіч А.Л. Уводзіны ў мовазнаўства. – Мн., 1987.*

*** Сцяцко П. У. Пачатковы курс мовазнаўства. – Гродна, 1993.*

**** Сцяцко П. У. Уводзіны ў мовазнаўства. – Гродна, 2001. – С.3*

***А. І. Багдзевіч,***
***канд. філал.навук.***
***Ж. С. Сіплівеня,***
***канд. філал. навук.***



Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**ЯНКЕЛЬ** *(паднімае і кідае на стол торбу).* І гэта ён называе мільёнамі?! Сірочыя слёзы, а не мільёны. Каб гэта былі сапраўдныя мільёны, а не паршывыя "кебічы", вы, таварыш маёр Тарас Тарасавіч, па-сяброўску, па-суседску даўно ўзялі б іх, як сціплы падарунак ад удзячнага Янкеля і яго дарагога суседа Юзафа ў гонар для вашага ангела і свята Вялікай пралетарскай сацыялістычнай Кастрычніцкай рэвалюцыі. *(Глядзіць на чырвона-зялёны сцяг, апушчаны да стала).*

*Янка-нямко спрабуе забіць цвікі ў раму закутымі рукамі.*

**ТАРАС.** Калі я правільна понял, то хочаш павярнуць сканфэскаваныя "кебічы" на хабар дзяржаўнай асобе пры выкананні?!.

**ЯНКЕЛЬ.** Скажыце, пажалста, можна падумаць, што "дзяржаўная асоба" не чалавек... Агіцал фаравоз! Нібы іншыя не бяруць...

*Янка-нямко злуецца ад няўдачы ў рабоце.*

**ТАРАС.** Паўтараю ў апошні паследні раз: альбо назавеш саобшчыкаў экспрапрыяцыі "звяр'я", альбо я нясу гэтую торбу галоўнаму банкіру Рэспублікі Бэлорусь і хай ён гэтым гаўном облепіць сцены свайго кабінэту і тувалэту.

**ЮЗАФ.** Не буйсь, пан гувняж! Нікуды далёка ён гэта "звяр'ё" не панясе. Некалькі хвілін таму я купіў яго на вечны час. А гэту торбу ён возьме ў прыдачу. У яго таксама сцены абшарпаны, а шпалеры ў дэфіцыце. І далікатную мясціну ён выцірае тымі ж партрэтамі, калі не наждачнай паперай... Кат! Здымі ж ты кандалы з этага трудаголіка!.. *(Ківае на Янку-нямко).*

**ЯНКЕЛЬ.** Што ён хоча ад нас яшчэ?

**ЮЗАФ.** Тарас Тарасавіч, як ліцо гасударсцьвеннае, хоча быць трэцім у нашым дзеле.

**ТАРАС** *(абурана на Юзафа Тадэвуша).* Не, вы хоць калі бачылі такога нахалюгу?! А з другога боку, чаму б мне і не быць трэцім?! Вам палёгка на катарзе, а мне хоць які, а навар... *(Здымае кайданы з Янкі-нямко, які знікае за дзвярыма свайго пакоя).*

**ЯНКЕЛЬ** *(да Юзафа Тадэвуша быццам і не чуючы Тараса Тарасавіча).* Паглядзіце, пажаласта, на гэтага пана рабацягу. Не ўдарыўшы палец аб палец, ён праз дзірку ў сцяне цягне мае мазольныя і яшчэ лічыць, што разам са мною робіць "дзела"!

**ТАРАС.** Выходзіць, рэб Янкель, ты супраць трэцяга?

**ЯНКЕЛЬ.** Ніхто такога не гаворыць. Але калі я вазьму трэцяга, то нада вельмі падумаць, што рабіць з чацвёртым, бо без яго на гэтай торбе ўсё наша "дзела" і скончыцца.

**ТАРАС.** Значыць, у вас тута групавое?! Як там у кодэксе сказана: "Прочно сложившаяся преступная группа".

*Янка-нямко выносіць некуды ліст фанеры.*

**ЯНКЕЛЬ.** Навошта плявузгаць абы што і выдумляць нейкую "группу"? Калі я і "сложился прочно" то не з нейкай там групай, а з адным харошым чалавекам. І няхай ён жыве ўсе 120 гадоў на радасць сваім родзічам і нашаму інтэрнацыяналу.

**ТАРАС.** Хто такі?! І пры чым тут наш інтэрнацыянал?! Або я запаўняю ордэр на тваё імя і адзяваю наручнікі, або...

**ЯНКЕЛЬ.** Как я так быў жыў і здароў, як тое праўда, што ты вынясеш гэта *(паказвае на торбу)* смецце з нашага інтэрнацыянальнага пад'езду. Які бы ты маёр ні быў, але ж і табе трэба неяк жыць у гэтым кручаным свеце з інфляцыямі, дэвальвацыямі, дэмінацыямі і навацыямі з індэксацыямі.

*Янка-нямко вяртаецца ў свой пакой.*

**ТАРАС.** Кажы, з кім злажыўся або давай рукі пад бранзалеты! *(Вымае з сумкі другія наручнікі).*

**ЯНКЕЛЬ** *(хавае рукі за спіну).* Ну, з кім яшчэ можа злажыцца праведны габрэй, як не з прававерным мусульманінам. *(Глядзіць на дзверы Ахмета, праз якія той увесь час падслухоўвае размову астатніх).*

**АХМЕТ** *(выходзіць з дзвярэй).* О, няверны! О, баязлівец! Хаін! Саткъын! Яму толькі паказалі бранзалеткі, а ён ужо раскалоўся, як той грэцкі арэх, што пераэімаваў пад снегам! Масхаралык! І ён яшчэ хоча, каб нашы пагадзіліся з іхнімі на тых клятых Галандскіх вышнях!

**ТАРАС.** Будзь добры, дарагой сусед, сесці за стол насупраць власці і хвіліну памаўчаць.

*Янка-нямко нешта пілуе ў сваёй кватэры.*

**АХМЕТ.** Сапъ слунъыз! Шчыра дзякую, пастаю.

**ТАРАС.** І то праўда, бо шчэ насядзішся *(ківае на Юзафа Тадэвуша і Янкеля Янкелевіча).* З гэтымі рабаўнікамі працоўнага люду. Грамадзянін Янкелеўскі, што ў тваёй шайцы робіць гэты чумазлай? *(Ківае на Ахмета).*

**АХМЕТ.** Прашу сведак запомніць, як гэты член інтэрнацыяналу абразіў мае нацыянальныя пачуцці і асабісты чалавечы гонар!

**ТАРАС.** Помоўчы, няшчасны, з гонарам хоць до того часу, як цябе повязуць одсюль "дорогой длинною да ночкой темною".

**АХМЕТ** *(дзёрзка).* Далей Крыму не павязуць. Не тыя часы! А будзеш паграажаць, то ведаеш, да каго я збягу?..

**ТАРАС.** Ах, ты злодзей! Ах, ты баявік! Ах ты, спекулянт няшчасны! Ах ты, татарська фізіяномія! *(Штурхае Ахмета ў сваё крэсла-круцёлку і пачынае раскручваць яго).*

**АХМЕТ** *(пасля таго, як яму ўдаецца выскачыць з круцёлкі).* Ахмет Ажгірэй Бут-Гусаім Юсуф Кайдан Канчак Аляксандравіч-аглы мае гонар, як і гэты пан Юзаф, заявіць, што ён зусім не тое, чым вы яго абазвалі, паважаны акалотачны, як той жа Юзаф кажа. І я настаўваю на тым, каб вы запомнілі, што Ахмет Ажгірэй Бут-Гусаім Юсуф Кайдан Аляксандравіч-аглы сумленны і пакуль яшчэ савецкі працаўнік гандлю сатыджы, які мае законны патэнт на продаж тавару.

*Янка-нямко выносіць некуды невялікія лісты фанеры.*

Грамадзяне суддзі, я сказаў калі не ўсё, то тое, што хацеў сказаць!

**ТАРАС.** Выходзіт, што ты закупляеш, а он прадаёць?.. А барышы... Куда барышы?!

**ЯНКЕЛЬ.** Пароўну. І каб нам навару не мець, калі гэта не так.

**АХМЕТ.** І каб нам да раніцы збанкрутаваць, калі мы з дапамогай Івана Іванавіча, як дэпутата, не пасадзім цябе на лаву падсудных за рэкет сярод белага дня і знявагу нацыянальных і рэлігійных пачуццяў прадстаўнікоў малых народаў гэтай недапечанай Рэспублікі.

*Тарас Тарасавіч і Юзаф Тадэвуш нават губляюцца ад такога напору Ахмета Ажгірэя-аглы. Гэта і надае рашучасці апошняму.*

Рэб Янкель, забяры ў рабаўніка свае капейкі і занясі іх на захаванне хоць у ламбард да "Радзівіла" (на Юзэфа Тадэвуша), каб гэты прапойца з табой больш не дзяліўся!

**ЯНКЕЛЬ.** Брат мой, Ахмет, не думай што Янкель такі дурны, каб несці свае капейкі ў збанкрутаваныя банкі збанкрутаванай дзяржавы. *(Працягвае руку да торбы з грашыма).*

*Янака-нямко вяртаецца ў сваю кватэру.*

**ТАРАС** *(са здзекам).* Не спяшайся, Янкель, з козамі на торг, як казаў мой дзед. Потым, скажу вам шчыра, мне очань брыдка і абідна, што вы самога Тараса Тарасавіча,васпітанніка найлепшай пажарнай акадэміі за такога нэхлемяжнага дурня дзержыця... А я – сышчык-прафесіянал. Я за вярсту чую, гдзе пахнет смажаным. Я ж наперад, як разбіраць данос грамадзяніна Янкеля Янкелевіча на пана Юзафа Тадэвуша, прасачыў не толькі за імі, але і за табою, спадар Ахмет аглы. Правёл, так сказаць, прэдварыцельнае следства. Па-нашаму гэта дазнаннем завецца. Дакладна ўстанавіў і зафатаграфаваў, што Янкель, з адной стараны, не купленую гарэлку перадае Ахмету, а Ахмет, з другой стараны, прадае не купленае Янкелем... прэступна адлітае з дзяржаўнай бочкі. А найбольш, што мяне здзівіла, дак гэта тое, што татарын – прававерны мусульманін – прадаёць гарэлку, што кацегарычаскі забаронена Каранам. Я яшчэ неяк магу зразумець іўдзея – яны з прадвеку задавальнялі нашы нужды ў гарэлцы. Але каб гэтым займался мусульманін, проста не чуў. Таргаваць пеўнікамі – то іх нацыянальнае дзела.

**ЯНКЕЛЬ.** Калі чэсна, то мы з Ахметам такія іудзеі і мусульмане, як вы хрысціяне. Ды даруюць нам багі нашы.

**АХМЕТ.** Ён ужо забыўся, што бальшавікі зрабілі і з нашымі верамі, і з нашымі багамі, і з нашымі мовамі, кнігамі, храмамі... Фіннары фіссекары і агонь пякельны!

**ЯНКЕЛЬ** *(перахоплівае).* І з намі самімі. Ім што габрэй, што татарын, што паляк, што беларус, што хахол – адзін быдлячы інтэрнацыянал.

*Янка-нямко выносіць некуды невялікія лісты фанеры.*

**АХМЕТ.** Таму і кіруемся вашай прымаўкай: як не даясі, то і святых прадасі. І калі ўжо на божай ніве колас веры больш не расце, то і нам, татарам, усё адно, што калым, што Калыма. Даруй мне, Валлаг Усявышні!

**ТАРАС.** Ого, як вы разговорылыся!

**ЮЗАФ.** Калі пераказаць нашаму дарагому товажышу секретажу партыйнаму – не паверыць.

**АХМЕТ.** А мне пляваць на іхняга "секретажа". Цяпер у нас сорак партый – да якой захачу да такой і далучуся. І табе, таварыш маёр, не ўдасца абвінавáціць двух сумленных гандляроў у спекуляцыі, бо такога артыкула, як спекуляцыя, у законах суверэйнай і незалежнай, на шчасце, няма.

**ЮЗАФ.** Чым у свой час вельмі ганарыўся адзін разумны і шаноўны спікер.

**ТАРАС.** Ну, што ты вытыркаешся? Што вы мяне перапыняеце? Тут жа вам не парламент, не кагальная сходка, не байрам-курултай! Я ўзяў слова як следчы. А следчы ўстанавіў, што залатар Янкель зусім не залатар, а агент уліяння па забяспячэнню гандляра Ахмэта крадзеным дзяржаўным спіртам-сырцом з таго самага заводу, які вазглаўляет наш дарагі сусед і вечны слуга народу, той самы "товажыш секретаж партыйны" Іван Іванавіч Іваноў.

*Вяртаецца Янка-нямко.*

**АХМЕТ І ЯНКЕЛЬ** *(амаль разам і вельмі абурана).* Паклёп! Хлусня! Антысемітызм! Таталітарызм! Дзе правы чалавека?!

**ЯНКЕЛЬ** *(спакойна).* І яны хочуць, каб у нас пасля гэтага не было дэсідэнтаў?..

**ТАРАС** *(моцна б'е кулаком па сталу і дужа ціха і спакойна просіць).* Нямко, будзь ласкавы, скажы ты гэным зладзюгам, каб хвіліну памаўчалі, бо ад іх нахабства дыхаць няма чым... Так я і скажу, што вы, Ахмэт ды Янкель, прысабачылі да Іванавай цыстэрны са спіртам трубу, вывелі яе пад зямлёю за агарожу прама ў каналізацыйны калодзеж і паставілі там на гэту трубу кран... *(Да прысутных).* Бач, як стала ціха?.. Дак вот, два разы на нядзелю Янкель на сваім паганым "Запарожцы" падкатвае да калодзежа, налівае чатыры каністры спірту, закручвае кран і вязе гэты сырэц да Ахмэтавага шалману. Ахмэт у сваю чаргу разводзіць напой да кандыцыі, разлівае ў пляшкі, што збірае цэй Нямко, лепіт дзяржаўныя этыкеткі і прадаёт гэты "рояль" трудзяшчым масам. А тыя дурныя масы ад той атруты мруць, как мухі. *(Надзявае наручнікі на Янку-нямко).*

**АХМЕТ.** Можна падумаць, што тыя масы да нас не мёрлі... ці пра гэта начальства не ведала.

**ТАРАС.** Ведала ці не ведала, но ад гэтага дня вашай трубе – труба!

**ЯНКЕЛЬ.** Госпадзі, божа мой! Можна падумаць, што там сапраўды труба! А там жа вось такенечкая трубачка. Там нават не трубачка. Там пісюнчык немаўляткі. Тры бітых гадзіны сядзіш у тым клятым смярдзючым калодзежы, пакуль яно накапае. Задыхаешся ад смуроду, дрыжыш ад холаду, дрыжыш ад страху...

**АХМЕТ.** Дрыжыш за пакупніка, які з усходу сонца дрыжыць каля майго шалманчыка, як вы кажаце, каб апахмяліцца з перапою яшчэ вечарам. А іншы яшчэ і з прэтэнзіяй. У цябе, Ахмет, маўляў, гарэлка атручаная. Дзве бутэлькі выпіў, а мяне званітавала.

**ЯНКЕЛЬ.** Скажы, пан Юзаф Тадэвуш, што таварыш Ахмет не хлусіць. Скажы за якасць нашага "раялю", ты заўсёды быў чэсным чалавекам і акрамя нашага, нічога іншага не піў!

**ЮЗАФ.** Я разумею пана, пане гандляжу. Напой, што трэба. Бардзо добры напой. "Раялю" не раўня. І фірма надзейная. "Іван, Ахмет, Янкель і кампанія".

**ЯНКЕЛЬ.** Не разумею, навошта такая доўгая фірма? Куды карацей было б: "Тарас і кампанія". А яшчэ карацей: "Тарас і Ко".

**ТАРАС.** Так сказаць, кааператыўнае прэдпрыяціе з неабмежаванай безадказнасцю. *(Рагоча).* А калі ўсур'ёз, то мо я і пагаджуся, колі ты, Ахмет-аглы, пойдзеш зараз да хаты і прынясеш мне вось такую ж торбу грошай, як першы ўзнос на заснаванне фірмы. А ты, Юзаф, нясі сваю тальянку.

*Ахмет Ажгірэй ідзе ў сваю кватэру, а Юзаф Тадэвуш у сваю.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

№ 43 (531) 31 КАСТРЫЧНІКА 2001 г. Наша слова

# Беларусы ў Севастопалі

Адляцелі ў мінулае жнівеньскае крымскае сонца, гаючыя хвалі Чорнага мора, узбярэжны пясок. Я зноў вярнулася да звычайных спраў у Беларусі, а ў сэрцы жыве-непакоіць жаданне расказаць землякам пра незвычайных людзей, нашых суайчыннікаў, якіх выпаў шчаслівы лёс спаткаць на крымскай зямлі.

Мне здавалася, што любіць Беларусь мяне не трэба вучыць, але як важна было паглядзець на севастопальскіх беларусаў з пазіцый нашых рэалій, акунуцца ва ўкраінскае жыццё маіх землякоў. Незалежнасць Украіны і пазіцыі ўкраінскай мовы – гэта тэма асобнай гаворкі, а вось сённяшнія аспекты Беларусі вельмі добра высвечваюцца менавіта там, у суседзяў.



На выставе ў Дзень Незалежнасці Ўкраіны Ганна Малахоўская-Васюніна, Людміла Дзіцэвіч, Валер Барташ, Кацярына Бас.

Так сталася, што бараніць беларушчыну сёння паклікала наша краіна усіх, хто можа і хоча гэта рабіць. Адгукнуліся на гэты покліч і нашы землякі з Севастопаля, якія 27 чэрвеня 1997 г. аб'ядналіся ў Севастопальскае таварыства "Бацькаўшчына". Узначаліў арганізацыю адвакат Валеры Барташ. Цяпер усіх сяброў Таварыства каля 20 чалавек. Змянілася і назва. Пасля прыезду ў Беларусь Валеры Барташа ў 1997 г., які не быў на Радзіме з 1963 г., пасля наведвання музея Багдановіча, ён прапанаваў увекавечыць імя слыннага паэта, апошнія хвіліны жыцця якога прыняла крымская зямля. Так у 2000 годзе з'явілася Севастопальскае таварыства беларусаў імя М. Багдановіча "Пагоня".

У першых кроках Таварыства я адчула прынцып навуковасці, якім дасканала валодае інтэлектуал Барташ. Чальцы пачалі вывучаць Беларусь, яе гісторыю культурныя каштоўнасці. Гэта сталася неабходнасцю, бо мала хто валодаў мовай, ведаў славутую гісторыю бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня", гісторыю напісання "Магутны Божа" і музыкі да яго, слоў "Жыве Беларусь!". А з гэтага ж узніклі сімвалы, гімн, дэвіз арганізацыі. Севастопальскія беларусы не ведалі нават, дзе пахаваны М. Багдановіч, каго яшчэ з беларусаў прытуліла крымская зямля.



Ля магілы М. Багдановіча Юлія Дзіцэвіч, Людміла Дзіцэвіч, Валер Барташ, Ганна Малахоўская-Васюніна.

Так супаліся навучанні з адкрыццямі. Спачатку беларусы Севастопаля для сябе, а потым для астатніх адкрылі, што Аляксандр Казарскі, герой барацьбы расійкага флоту з туркамі ў 1829 г., па паходжанні беларус з Дуброўны Віцебскай губерніі і што помнік 1831 года ўганароўвае зусім не расіяніна, як лічылася заўсёды. Гэтае адкрыццё стала шокавым для расіян-севастопальцаў. Беларусы ж працягвалі адваёўваць спадчыну. На Дзяды Таварыства правяло шэсце да помніка Казарскаму, ля якога быў распрацаваны план па перавозцы ў Беларусь трохтоннага адміралцейскага якара, падараванага Чарнаморскім Флотам роднаму гораду героя. Не забыліся ў гэты дзень беларусы і пра 29 маракоў з Беларусі, якія загінулі на лінкоры 45 гадоў назад – быў адслужаны малебен і ўскладзеныя кветкі на магілу.



Каля помніка Аляксандру Казарскаму сябры Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча "Пагоня".

А сябры Таварыства асвойвалі новыя прасторы. Самым галоўным стала пракладванне не сцяжынкі, а гасцінца да магілы М. Багдановіча. Ужо дзесяць разоў душа нашага Максіма пабачыла на месцы свайго апошняга прыстанку рупліўцаў з Севастопаля, бел-чырвона-белыя сцягі, увекавечаны ім у вершы герб, сцяг Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з Беларусі, пачула шчымліва-дрыготныя галасы, якія чыталі яго вершы, апавядалі пра яго жыццё. Спадар Валер наладзіў вандроўку да Максіма і для мяне. Я стаяла ля святой мне магілы і праз намітку жаллівасці бачыла ўзнёслыя твары Валерыя Барташа, Ганны Малахоўскай-Васюнінай, Анатоля Карэцкага, здзіўлена-натхнёны твар маёй дачкі (яна не чакала пабачыць тут апантаных патрыётаў), і ў думках бясконца дзячыла землякам за маю здзейсненую мару жыцця – прычасціцца да Максімавай паэзіі на месцы ягонага апошняга спачыну.



Сябры Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча "Пагоня"ў бібліятэцы.

Мяне асабліва захапляе, што сябры Таварыства займаюцца даследчыцкай дзейнасцю. Даведаўшыся пра беларускае паходжанне Адама Міцкевіча, нашы землякі адшукалі яго вершы, прысвечаныя Крыму, знаёмяцца з акалічнасцямі жыцця аўтара "Крымскіх санетаў". Я пабачыла сігнальны экзэмпляр талеркі, выраблены ў гонар Міцкевіча, прачытала ў прэсе пра літаратурнае свята, прысвечанае сусветна вядомаму паэту, праведзенае беларусамі з дапамогай таварystваў нацыянальных супольнасцяў. Культурна-асветніцкая і навуковая праца нашых землякоў уражвае. Праведзеная вечарына, прысвечаная Ефрасінні Полацкай, некалькі навуковых канферэнцый, прысвечаных гісторыі ВКЛ, памяці Усевалада Ігнатоўскага і Міколы Ермаловіча, ушанавана імя пісьменніка-рамантыка Аляксандра Грына, бацька якога С. Грынеўскі быў удзельнікам паўстання 1863 г. у Беларусі. У дні чарнобыльскай жалобы праведзены нядзельнік на могілках горада, дзе у брацкіх магілах спачываюць беларускія салдаты, якія загінулі ў Крымскую вайну 1854-1855 гг. пры абароне Севастопаля. Бронзавы паручнік Менскага палка Раткевіч задуменна адзначыў бел-чырвона-белы сцяг, які прынеслі землякі, каб вярнуць героям 19 ст. іх Радзіму, каб паўстаць на шляху духоўнага Чарнобыля 20 ст.

Таварыства добра ведаюць у горадзе. Па 30-хвіліннай гарадской радыёперадачы адзін раз у месяц, што ладзіцца вось ужо на працягу 4-х гадоў на цудоўнай беларускай мове руплівасцю спадарынь Ганны Малахоўскай-Васюнінай і Вікторыі Азаравай, па дасціплых артыкулах у прэсе старшыні Валеры Барташа, па гучных нацыянальных ініцыятывах – прыкладам, па сходзе, прысвечаным 80-ым угодкам БНР, звароце да ўдзельнікаў Марша Волі 17 кастрычніка 1999 г., да Усебеларускага з'езду (ліпень 2000). Адраджэнне гонару беларусаў выклікае павагу і з боку калегаў па іншых Таварыствах нацыянальных супольнасцяў, што аб'ядналіся ў Асацыяцыю. Беларусы маюць сяброўскія адносіны з Таварыствам украінскай мовы "Просвіта", Асацыяцыяй крымскіх караімаў, Цэнтрам па адраджэнні крымска-татарскай культуры, з таварыстамі крымчакоў, балгараў і інш. Паважаюць беларусаў, зважаючы на іх інтэлектуальныя дасягненні, і ў севастопальскай Асацыяцыі нацыянальна-культурных Таварystваў, старшынёй якой з'яўляецца Валеры Меладан. Асаблівая лучнасць у беларусаў з Севастопальскім Саюзам украінак, старшыня якога Багдана Процак з'яўляецца сябрам Таварыства беларусаў "Пагоня".

Гэта толькі невялікая частка таго, што робяць нашы землякі ўдалечыні ад Радзімы. І гэты артыкул – дробак даніны за самаахвярнае служэнне Бацькаўшчыне, за сцвярджэнне годнасці нашай нацыі, за вяртанне нашых імёнаў, падзеяў, за вернасць мове роднай. Я глыбока трымаю ў памяці твары блізкіх і родных ужо мне людзей: глыбока прасветлены – Ганны Станіславаўны, дасканала вытанчаны – Кацярыны, чуйна засяроджаны – Анатоля Карэцкага, пяшчотна мяккі – Алесі Манько, інтэлігентна-мужны – Валеры Барташа. Гэтыя людзі ўвялі мяне ў свет невядомай раней Беларусі. Яны – тыя галінкі беларускага дрэва, што, аднесеныя ў вольныя землі чужыны, нясуць жывільныя сокі прысмяглай Бацькаўшчыне.

***Людміла Дзіцэвіч,***
***першы намеснік старшыні ТБМ.***



Каля Чорнага мора Валер Барташ, Людміла Дзіцэвіч, Кацярына Бас, Ганна Малахоўская-Васюніна (апошняя справа).

**Васіль Ліцьвінка**

# Светапогляд Дзядоў

По гарызанталі часу ў адно цэлае жыццёсцвярджальны светапогляд усёй традыцыйнай культуры беларусаў аб'ядноўваюць Дзяды. Вытокі іх ідуць ад Ведаў – самой старажытнай ведыйскай культуры, дзе сэнс жыцця людзей на зямлі тлумачыцца рэінкарнацыяй – пераходам у іншую форму існавання.

Страх чалавека перад смерцю, як перад самай непазбежнай рэальнасцю знайшоў сваё ўвасабленне ў светапоглядзе Дзядоў. Калі непазнаныя ў старажытныя часы стыхіі ён персаніфікаваў у Велесу, Даждзьбогу, Перуну, Лесавіку, Русалцы, Кусту і іншых міфалагічных уяўленнях, то нябожчыкі ў іх пераходзілі "на той свет і адтуль", "усё бачылі, усё чулі, усё ведалі" і маглі ўплываць на жыццё кроўных, іх дабрабыт, здароўе, шчаслівы лёс. З гэтага, дарэчы, нарадзілася і вера ў прадвызначанасць лёсу. Жывыя нашчадкі Дзядоў з'яўляюцца як бы прадстаўнікамі іх у добрых справах, атрымоўвалі ад іх дапамогу ў гэтым, а таму пра Дзядоў "гаварылі толькі добра, або ні слова".

Кожная субота была філасофскім роздумам ля магілы Прашчура, успамінамі аб лепшых прадстаўніках роду не менш чым да пятага і нават дзесятага калена. Такім чынам усталёўвалася аптымістычная сувязь пакаленняў, натуральны адбор і перадача лепшага працоўнага і жыццёвага досведу.

Да фантастычнага ўзроўню светапоглядная міфалогія Дзядоў узнята ў траецкіх Дзядахі (49 суботні дзень пасля Вялікадня), калі "наўі" – душы Дзядоў нябачнымі выходзілі з магіл і назіралі за жыццём кроўных. Выніковымі з-за сувязі са штогадовым адыходам прыроды да зімовага сну былі Змітраўскія Дзяды (у суботу перад 8-ым лістапада), бо сімвалізавалі пераход усіх жывых у іншую форму існавання. Здзіўляе, што гэтыя быццам бы наіўныя ўяўленні пацвярджаюцца сучаснымі касмічнымі тэорыямі існавання чалавека і асабліва адкрыццём і нават матэрыялізаванай фотафіксацыяй біяэнергіі, якая не знікае бясследна. Якая гэта аптымістычная, гуманістычная тэорыя ў параўнанні з застрашваннем пеклам і раем, нікчэмнасці зямнога існавання чалавека! Дзяды вядуць свой радавод ад пачатку роду чалавечага. Нашчадак улашчваў іх праз магічныя рытуалы, абрады, звычаі, замовы, абрадавыя песні, карагоды. Так нарадзілася яе вялікасць Прыгажосць, магічнае стала Прыгожым. Але вобраз Прашчура вырас да ўзроўню філасофскага яднання пакаленняў. Памылка, што Дзяды адменены на Беларусі, як дзяржаўнае свята.

Кожны дзень у беларуса меў сваё значэнне: панядзелак быў не варты для пачатку сур'ёзных спраў – іх трэба было пачынаць у аўторак. Чацвер быў чыстым, пятніца – жаноцкай і г. д. У кожнага дня тыдня была мнагазначная сімволіка, але асноўным напаўненнем суботы было ўшанаванне дзядоў, прадзедаў, прашчураў – усіх адышоўшых у нябыт продкаў. Кожную суботу беларус мусіў калі не наведаць могілкі, то добрым словам успомніць тых, хто надзяліў яго праз гены здольнасцямі, перадаў яму свае лепшыя рысы. Асновай для перадачы духоўнага і жыццёвага досведу з'яўляецца сямейна-каляндарны звычай дзядоў, унікальнасць, філасофскую мудрасць якога глыбока зразумелі і перадалі ў паэмах "Дзяды" Адам Міцкевіч і "Курган" Янка Купала.

З цягам часу сярод дзядоўскіх субот з'явіліся важнейшыя каляндарныя: мясаедная, як пачатак новага вітка росквіту жыцця, траецкая – найбольшы ўзровень росквіту прыроды, і апошняя кропка, галоўная – Змітроўскія Дзяды. Разам з Вялікаднем яны ўяўляюцца галоўнымі нацыянальнымі святамі, бо першае сведчыць, што мы – дзеці Сонца, а другое - што мы нашчадкі вялікага роду дзядоў, велетаў, волатаў, асілкаў (маюцца на ўвазе нашыя вялікія продкі).

Ёсць яшчэ адзін гістарычна пазнейшы дзень ушанавання продкаў – Радаўніца, якая святкуецца ў аўторак паслявелікоднага тыдня. Неаднаразова даводзілася фіксаваць, што Радаўніца часам была ўшанаваннем нябожчыкаў толькі мінулага года. Дарэчы, гэта свята ўсё ж было больш вядома ў расейскай традыцыі.

Калі Дажынкі-Багач былі галоўнымі святамі нашага продка-земляроба, бо вянчалі яго працоўныя клопаты, то Змітраўскія Дзяды – дзень, калі нашчадак не толькі асэнсоўваў пражыты год, але і задумваўся над сэнсам свайго асабістага жыцця на аснове ўспамінаў аб добрых прыкладах сваіх продкаў. Вось тут і ёсць галоўная нацыянальная ідэя існавання беларусаў на свеце – быць моцнымі розумам сваіх продкаў, узбагаціцца іх жыццёвым досведам, бо на Змітроўскія Дзяды род успамінаў лепшае ў сваіх кроўных: "Бацька быў разумны земляроб"; "Дзед Іван быў выдатны пчаляр"; "Прадзед Васіль быў віртуозны музыка". І гэтак далей з усякімі падрабязнасцямі ўспаміналася кожны год і перадавалася суродзічам.

У сувязі з перанясеннем сустрэчы Новага года спачатку хрысціянствам адпаведна яго філасофіі з вясны на восень, а потым па заходняму ўзору – на зіму, насычаным рытуаламі ўшанавання продкаў аказаўся студзень, калі адзначаюцца посная, шчодрая і вадзяная куцці.

Напярэдадні Дзядоў гаспадыня ўвесь дзень рыхтавала ежу, каб былі адпаведныя стравы, але каб іх лік быў няпарны – не меней ад пяці страў. Да куцці пайменна запрашалі ўсіх памершых у гэтай хаце, але спачатку апошняга з нябожчыкаў, як, напрыклад: "Васіль, Янка. Алена, Пятрок, Звядора, Тамаш... прыходзьце ўсе да стала". У хаце адчыняліся дзверы, каб нябожчыкі маглі зайсці. Ставіліся асобныя міска ці талерка, клаліся лыжка, відэлец, налівалася шклянка і бралася па лыжцы кожнай стравы. Гаспадыня абавязана была спячы свежы хлеб і асобна дзедаўскі "курак" – маленькі хлеб, які аддавалі жабракам. Калі запрашалі па імёнах усіх памерлых, дзядоўскія рацэі гаварылі як мага карацей. Асобна адзначалі праслаўленых людзей роду і тых, хто найбольш пражыў на свеце. Пасля куцці гаспадар хаты браў вялікі драўляны кубак, напаўняў вадой, клаў наверх дзедаўскі "курак", пакрываў яго рушніком, адчыняў браму і выпраўляў усіх нябожчыкаў – выліваў кубак у бок могілак са словамі: "Ідзіце з Богам да наступных Дзядоў".

Раніцай у суботу на Змітраўскія Дзяды рыхтавалі ў дастатку стравы, усе ўставалі рана, чыста мыліся, апраналіся ў самаробнае, вышыванае святочнае адзенне, запальваліся свечкі, маліліся. Зрэдку сустракалася, што да снедання хадзілі на могілкі, але ўсё ж гэты рытуал з галашэннямі па нябожчыках адбываўся на Наўскі вялікдзень.

На снеданне гаспадыня клала перад кожным сямейнікам аладкі і куццю з маслам. Гаспадар выразна і ўрачыста гаварыў: ***"Хвала табе, Божа, Дзядоў дачакаліся. А на гэта свяцця людзі грошы траццяь. Бо ад Дзядоў да Дзядоў моў бы сорак гадоў, а ўсё-такі дачакаліся. Ай, дзяды-дзяды, усё вам гатова: і пітво, і мёд, і квас, ёсць вам і мяса, ёсць і каўбасы, толькі ешце, будзе з вас! Хлеб, гарох і каша – усё багацце вам наша!"***

Са словамі: ***"Памяні, Божухна, нашых святых дзядоў! Няхай яны са святымі спачываюць, а нам хлеба-солі засылаюць!"*** – гаспадар на сподачак, пакрыты аладкамі, адкладваў з кожнай пададзенай стравы (найбольш часта традыцыйна іх павінна быць магічным лікам сем, але абавязкова – рыба, грыбы і каша) і ставіў на падаконнік або на асобна прыробленую палічку са знешняга боку галоўнага акна. У той жа час ён прамаўляў: ***"Святыя дзяды! Прыйдзіце сюды – гэта для вас!"*** Усе сямейнікі ўслед за гаспадаром паўтараюць яго словы. На стале таксама пакідалі месца і асобныя сподачак і напоўненую шклянку для памерлых. Калі прыходзіў жабрак, якіх многа хадзіла на Дзяды, яму аддавалі дзедаўскі пачастунак, калі ж не – ежа даставалася чыстым хатнім жывёлам (карове, каню, кату, сабаку).

Адзіным прадметам працяглай застольнай гутаркі з'яўляліся, зразумела, успаміны пра дзядоў. Агульнымі намаганнямі кроўных прыгадваліся найбольш значныя выпадкі з жыцця паміналых, іх словы, здольнасці, наказы, фізічныя асаблівасці, нават радзімкі, ямачкі, знешнасць. Але тут не было месца ўспамінам пра адмоўныя рысы дзядоў. Іх сподачак заставаўся на стале разам з соллю і хлебам да вечара. Застолле-гутарка доўжылася да абеду, перарываючыся зваротамі: ***"Святыя дзяды, клічам вас, хадзіце да нас, ляціце да нас, чым толькі хата багата, што ёсць тут – для вас я ахвяраваў! Прыходзіце, дзяды-радзіцелі, і старыя, і малыя, хто на гэтай сялібе жываў, хлеба-солі ядаў! Да свайго стала, да свайго прыпечка хлеба-солі засылайце, каб было чым душу памінаць год ад году, век ад веку! П'ю за вас, нашы бацькі сардэчныя, каб ведалі, што нічога не шкадую вам!"***



**Ад дзеда толькі добрае.**

Часам збіраліся родам – тады сем'ямі прыходзілі са сваімі прыпасамі ў найбагацейшы з роду дом і вячэралі за агульным сталом, часам галасілі. Але ў асноўным гаварылі аб продках. Мінімальнай у народнай свядомасці лічылася памяць да дзесятага калена, у род хлопца прымалі, калі той мог успомніць родзіча з пятага калена, але традыцыйна лічылася паважным ведаць і захоўваць памяць пра ўсіх продкаў.

Пасля вячэры размова цягнулася да "трэціх пеўняў", апавядаліся прыгоды, характары, родавыя і звязаныя з родам успаміны, паданні, легенды. Колькасць "дзядоўскіх боханцаў" (іх пяклі столькі, колькі успаміналі продкаў) часам дасягала ў вялікім родзе ад 30 да 50. Са звычаем дзядоў звязаны прыгожы звычай запісвання суродзічаў на покуці. У Змітроўскую суботу ў хату прыводзілі адукаванага чалавека, які выразаў на бэльках імёны нованароджаных і памерлых за мінулы год.

Шчодра надзялялі на Дзяды жабракоў, якія "болей прыгаворвалі і лепш спявалі старэцкія песні". Пастух у гэты дзень прыгаворваў пад вокнамі: ***"Гэй, гаспадарыня! Ці пякла аладкі? Прыслалі дзяды па аладкі, свінкі па саланінкі, авечкі па яечкі, баранкі па соль, а кароўкі па сыр".*** Гаспадыні выносілі пастухам усё тое, што яны прасілі.

Бывала, што на наступны дзень, у нядзелю, гаспадар заклікаў "дзядоў" таксама на абед: ***"Святыя Дзяды! Просім з намі абедаць, каторыя ўчора спазніліся або каторыя зусім не былі, можа будзеце гневацца, не забывайце ды прыбывайце!"*** Усе былі моцна перакананы ў тым, што цені продкаў нябачна выходзяць у гэтую хвіліну з магіл і, седзячы з імі за сталом, жывяцца парай, якая ідзе ад страў. Калі б хто пажадаў гэта ўбачыць, той павінен быў выйсці ў сенцы і праз саломіну паглядзець у пакой. Напэўна, не адзін цікаўны зрабіў бы гэта, калі б не пагражала небяспека смерці – смяльчак, які адважыўся б на такі ўчынак, павінен абавязкова памерці ў той жа год. Хатнія за дзедавай вячэрай так часам горка плакалі, так галасілі, што ў прысутных на галаве валасы ўставалі дыбам.

Сучасныя святы Дзядоў могуць быць пабудаваны, як вяртанне гістарычнай памяці аб нашых выдатных продках: волатах-асілках легенд і паданняў, племянных князях Туру, Радзіму, Рагвалоду, Рынгольту, асветніках Кірыле Тураўскім і Ефрасінні Полацкай, першадрукару Францішку Скарыну, выдатных ураджэнцах Беларусі Тадэвушу Касцюшку, Станіславу Манюшку, Адаму Міцкевічу, змагару за волю народа Кастусю Каліноўскім, паэтах-песнярах Францішку Багушэвічу, Янку Купалу, Максіму Багдановічу, Якубу Коласу, выдатных фальклarыстах XX стагоддзя Рыгору Шырму і Генадзю Цітовічу і іншых вартых гэтай памяці нашчадках.

**Літаратура:**


Памінкі, пахаванні, галашэнні. Звод БНТ, МН., 1986.

Крук І. Дзяды // Работніца і сялянка, 1991, № 11.

Ліцьвінка В. Дзяды. – У кн.: Святы і абрады беларусаў, выд. 2-ое, Мн., 1998. – С.153-162.

Скідан В. Дзяды // Пралеска, 1992, № 10.

Сысоў У. Дзяды // Звязда, 1991, 1 лістапада.

Хатэнка А. Беларускі абрад памінання – Дзяды // ЛіМ, 1989, 27 кастрычніка.



**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/





*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 10. 2001 г.
Наклад 3750 асобнікаў. Замова № 2292.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.